Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem

# Беларускі Звон

Радыкальная тыднёвая часопіс

**Цана** асобнага нумару **20 гр.**

**Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:**
**Вільня, Ліпоўка 18.**
Адрэс для карэспандэнцыі і падпіскі:
паштовая скрынка № 19.
**Прыймо інтэрэсантаў**
ад 10 да 2 гадз. што-дня,
апрача сьвятаў і нядзель.
**Падпіска з дастаўкай да хаты:**
на 1 год—6 зл., за паўгоду—
3 зл., за 3 мес. — 2 зл.,
за 1 мес.—50 гр.

Год I. | Вільня, 26 лютага 1931 г. | №. 4

## Трагэдыя беларускага народу.

Трудна знайсьці ў сусьветнай гісторыі такі народ, які пераэкыў-бы гэтулькі няшчасьцяў, як беларускі.

Ня будзем гаварыць тут аб далёкай мінуўшчыне; пакінем і ўсё тое, што тварылася на нашых землях падчас сусьветнай вайны і рэвалюцыі. Усё гэта добра ведама кожнаму з нас. Затрымаёмся на тым, што творыцца цяпер на нашых землях, сярод нашага народу. Там, за савецкім кардонам — маскоўская камуністычная ўлада з нейкім дзікім, барбарскім фанатызмам разбурае усё, што тварылася беларускімі рукамі і што насіла характар беларускай культуры.



Праф. Ігнатоўскі

Тыя людзі, якія прычыняліся да разьвіцьця гэтай культуры, да адраджэньня нашага народу, — аказаліся на палажэньні самых цяжкіх праступнікаў: ня гледзячы на тое, што іншыя з іх займалі выдатныя становішчы ў камуністычнай партыі—іх пасадзілі ў вастрогі і скора будуць судзіць паводле ўсіх правілаў камуністычнага рэжыму.

Побач з фізычным тэрорам у Усходняй Беларусі ўсільваецца і маральны тэрор, скіраваны да таго, каб паставіць на калені і ўнізіць усіх тых, хто хоць крыху не згаджаецца ў сваіх думках з сучаснай дыктатурай чырвонае Масквы.

Цяпер ужо мала быць толькі лёяльным у адносінах да пануючай касты—вымагаецца актыўнасьць, вымагаюцца паступкі, якія-б сьведчылі аб „благонадежности“, — трэбуюць пакаянных граматаў, у якіх людзі змушаюцца да самаапляваньня, да асуджэньня сваіх уласных думак, сваіх перакананьняў, як-бы чыстымі яны ня былі.

І вось гэтыя людзі, апынуўшыся ня толькі ў фізычным, але і ў маральным рабстве,— змушаны пісаць і гаварыць тое, што потым не дае супакою іх уласнаму сумленьню і што можа прывадзіць да трагічнай разьвязкі.

Ня кожны мае сілы перажыць тую маральную паняверку і зьдзек, які робіцца ў Савецкай Беларусі над нашымі лепшымі людзьмі, каторыя яшчэ ня страцілі пашаны да самаго сябе.

У газэтах зьявілася вестка, што праф.

# Самагубства праф. Ігнатоўскага і паэты Янкі Купалы.

Мы ўжо паведамлялі аб масавых арыштах у Менску, Вітабску, Полацку, Магілёве, Гомелі і ў іншых гарадох Радавае Беларусі. Арыштаваны, галоўным чынам, культурнаасьветныя і навуковыя працаўнікі: дырэктар беларускага дзяржаўнага музэю Ластоўскі, старшыня Беларускай Акадэміі Навук прафэсар У. Ігнатоўскі, паэта Янка Купала, рэктар Беларускага Унівэрсытэту прафэсар Пічэта, дацэнт таго-ж унівэрсытэту І. Краскоўскі, акадэмік Язэп Лёсік, акадэмік С. Некрашэвіч і шмат іншых культурнікаў і вучоных.

Усіх іх абвінавачваюць у нацыял-дэмакратызьме, у імкненьні да стварэньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

**З двох арыштаваных праф. У. Ігнатоўскі і паэта Янка Купала ў знак пратэсту рашылі кончыць самагубствам. Янка Купала ў астрозе прабіў у некалькіх мясцох глыбака сабе жывот нажом (кажуць, завостраным канцом сталовай лыжкі), але хутка быў адвезены ў больніцу, дзе змагаецца са сьмерцяй, а абставіны сьмерці праф. Ігнатоўскага яшчэ няведамы.**

кожны, у каго цячэ ў жылах беларуская кроў, для каго нацыянальнае адраджэньне нашага народу зьяўляецца мэтаю жыцьця, — хто калісь верыў у тое, што — толькі пры камуністычным рэжыме магчыма зьдейсьніць свае ідэалы,—перажывае цяпер цяжкую трагэдыю, пабачыўшы, да чаго дайшла сучасная камуністычная ўлада ў СССР.

Падобныя расчараваньні не праходзяць у сумленных людзей бясследна і часта даводзяць да трагічнага канца.

Трэба быць запраўдным здраднікам свайго народу, трэба страціць пашану да самога сябе, каб бяспрычынна выпаўняць загады той улады, якая сьвядома імкнецца да зьнішчэньня ўсяго, што носіць беларускі характар. — Але людзі, якія вырасьлі ў рэвалюцыйнай ідэолёгіі і ўсе свае творчыя сілы аддалі на будаваньне новага ладу, не маглі пайсьці і ў рады ворагаў гэтага ладу. Дык адно ім і асталося—сьмерць.

А адначасна з страшной трагэдыяй беларусаў — тварцоў Савецкае Беларусі — ня меншую трагэдыю перажывае Заходняя Беларусь. І тут, як на Усходзе, трагэдыя гэтая—дзела рук камуністычнае партыі.

Калі існавала Грамада, яна высока падняла свой беларускі сьцяг, і стотысячная маса беларускіх сялян і работнікаў пайшла за ёй, як за сваім нацыянальным цэнтрам. Гэты нацыянальны характар Грамады гэтак ярка і красамоўна сцьвярдзіў на судзе яе сам-жа Тарашкевіч, як галава яе. Але якраз гэта і выклікала варожыя адносіны да яе ў камуністычнай партыі. Партыя патрэбавала ад грамадаўскіх павадыроў сьлепа падпарадкавацца ёй і адрачыся сваіх нацыянальных ідэалаў — у імя „сусьветнае рэвалюцыі“, каторая вось-вось мае выбухнуць. І калі большасьць беларускіх дзеячоў, зьвязаных з Грамадой, рашуча адмовілася ад гэтакае ролі, партыя пачала іх біць маральна і цкаваць так, як цкавалі і зацкавалі ў Менску на сьмерць Ігнатоўскага ды Янку Купалу. Але ня ўсе былыя грамадаўцы выявілі сваю духовую моц, ня ўсе адважыліся падставіць сваю галаву пад удары партыі. І вось Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла, Бурсэвіч паддаюцца партыйнай камандзе. Тры апошнія едуць у Менск і сваімі выступленьнямі там проці цкаваных Масквой беларускіх дзеячоў, гноеных у лёхах Г. П. У. за беларускую ідэю, „дапамаглі“ маральна і фізычна дабіць Ігнатоўскага і Купалу. А сам павадыр Грамады Тарашкевіч ...

безбаронных барацьбітоў за Беларусь і беларускую культуру, зрабіў нешта йшчэ горшае, чым забойства двух людзей: ён, як кажуць, „правaліў“ усіх тых радыкальна настроеных беларускіх культурных працаўнікоў Зах. Беларусі, якія, верачы Тарашкевічу, фактычна падпадалі пад дырэктывы партыі—часта нават несьвядома. Тарашкевіч, праяжджаючы праз тэрыторыю Польшчы, дзе яго ведае кожны



Янка Купала.

паліцыянт, з фальшывым пашпартам, меў з сабой як-быццам зумысьля сабраныя кампрамітуючыя матэрыялы аб усіх тых, хто верыў яму і йшоў за ім. І цяпер на ўсім абшары беларускіх зямель пад Польшчай ідуць масавыя арышты і нішчыцца да канца ўсё тое, што йшчэ жыло, ператрываўшы разгром Грамады і яе ўстаноў.

Так беларускімі рукамі нішчыцца жывая сіла нашага народу і на Захадзе, і на Усходзе. Але не дажduцца маскоўскія каты, каб іх сьмяротны прысуд над беларускім народам быў выпаўнены даканца: народ наш, хоць фізычна аслаблены, загартуе свой дух у перажываных няшчасьцях і, скінуўшы тыя духовыя путы, якія яму накінулі чужынцы, пойдзе сваім уласным шляхам да свайго вялікага

## Арышты студэнтаў украінцаў у Варшаве.

Палітычная паліцыя зрабіла шмат вобыскаў сярод студэнтаў — украінцаў у Варшаве — як сярод нацыяналістаў, таксама і камуністаў. У выніку — рад арыштаў.

## Прызнаньне нелегальнай і ліквідацыя П.П.С. - лявіцы.

Міністар унутран. спраў выдаў 14/II. загад аб прызнаньні П.П.С. - лявіцы нелегальнай партыяй і даручыў усім ваяводам прыняць рашучыя меры да ліквідацыі яе партыйных арганізацыяў на ўсім абшары Польшчы.

Таму — у ноч на 15.II. ўсюдых, у тым ліку і ў Вільні, паліцыя зачыніла ўсе камітэты П.П.С.-лявіцы, арыштаваўшы 20 сяброў партыі.

Адначасна сьледчыя ўлады зьліквідавалі акружны камітэт Камуніст. партыі Зах. Беларусі ў Вільні, зрабіўшы каля 100 вобыскаў. У рукі ўладаў папала шмат—каля 80.000 экзэмпляраў—рознай камун. літэратуры. У выніку обыскаў арыштавана 44 асобы.

## Вялікія арышты сярод камуністаў.

Як падаюць газэты, у першай палове г. месяца ў Варшаве заарыштавана шмат камуністаў.

У часе вобыскаў знойдзены камуністычныя адозвы, некалькі тысяч даляраў і нават некалькі кілаграмаў біжутэрыі. Арышты гэтыя знаходзяцца ў сувязі з падгатоўкаю камуністаў да дэманстрацыі, якія мелі адбыцца 25 лютага г. году ў розных вялікшых гарадох Эўропы.

Гэтая хваля арыштаў не прамінула і Вільню, дзе таксама ўлады зьліквідавалі камуністычныя арганізацыі, арыштоўваючы яе дзеячоў.

Тут таксама, як і ў Варшаве, знойдзены праклямацыі і даляры.

# Заграніцай.

## Байкот парляманту гітлераўцамі.

Каб зламаць абструкцыю (затрыманьне працы) збоку гітлераўцаў і камуністаў у парляманьце, урадавая большасьць — пры падтрыманьні сацыял-дэмакратаў, шпарка правяла рэформу ўнутранага статуту (наказу) парляманту.

Дзеля барацьбы з урадовай большасьцю, якая — пры падтрыманьні сацыял-дэмакратаў — шпарка разглядае бюджэт, каб скончыць яго ў законны час, абодва крылы апазыцыі—камуністы і гітлераўцы — пры падтрыманьні нацыялістаў — начаді так зван. „обструкцыю“, ці легальныя фармальна спосабы затрыманьня працы парляманту, як напр., — даўгія прамовы, трэбаваньні паіменных галасаваньняў для кожнага пытаньня і г. д. Сацыялісты падлічылі, што, калі обструкцыя будзе вытрымана далей, дык бюджэт — замест 1 сакавіка гэтага году — будзе прыняты толькі... у чэрвені 1932 г.

Тады парлямент шпарка перарабіў свой унутраны статут, даючы старшыні спосабы зламаць обструкцыю. На гэта апазыцыя рэагавала вельмі востра, як на нарушэньне канстытуцыі, а гітлераўцы пастанавілі цалком байкатаваць парлямант. Але большасьць парляманту не сплохалася гэтай пагрозы. Праца над бюджэтам ідзе бяз учасьця гітлераўцаў, якія маняцца ўсё — „адчыніць свой контр парлямэнт дый пачаць у краі „паўстанчую акцыю“ проці „незаконнага“ ўраду і парляманту... Але, ведама-ж, з гэтых пагрозаў нічога ня выйшла. Парлямант выбраў на месца гітлераўскіх кандыдатаў у прэзыдыум і камісіі новых сяброў і праца яго ідзе яшчэ лепш бяз гэтых гучных, але пустых дэмагогаў, канкуруючых у гэтым з камуністамі.

## Англія.

Прамова мін. фінансаў Сноўдэна — аб тым, што англійскі скарб ня можа больш вытрымаць павышэньня цяжараў дапамогі безработным—выклікала страшэннае абурэньне сярод работнікаў і можа нарабіць яшчэ шмат клопатаў „работніцкаму“ ўраду Мак-Дональда. Лявіца „Партыі Працы“, якая дагэтуль неяк не парывала сувязі з партыяй, цяпер рашуча пераходзіць у апазыцыю. Павадыры гэтай лявіцы заявілі, што заява Сноўдэна разьбівае самыя падставы ўсей тэй ідэолёгіі, на якой аснаваны ўвесь работніцкі рух, дый наносіць найцяжэйшы ўдар усім надзеям англійскіх работнікаў на „свой“ урад... „Работнікам Англіі, казаў адзін з іх, трэба будзе перагледзіць свае адносіны да старых партыяў і старых правадыроў, дый пачаць нанова працу стварэньня новай партыі, у аснову якой маюць быць пакладзены—ня словы, але чыны“...

Так адбіваецца гаспадарчы крызіс у Англіі на ўсей яе палітычнай будове... Павадыры „Партыі Працы“ ўсё больш схіляюцца да „злучэньня“ з буржуазнымі лібэраламі, прымаючы агульнадзяржаўную ідэолёгію. А гэта якраз і стварае патрэбу ізноў паўстаньня новай — чыста клясовай—партыі работніцкай, з больш рэвалюцыйнай ідэолёгіяй.

## „Морскае разбраеньне“.

Выперадкі паміж Францыяй і Італіяй у разбудове флёту ўсьцяж завастраюцца. Нядаўна французскае морскае міністэрства залажыла некалькі новых ваенных караблёў розных тыпаў. На гэта зараз-жа адказала Італія тым-жа самым, толькі разьлічыўшы будову ў значна карацейшы срок. Гэты крок Італіі выклікаў страшэннае абурэньне ў Францыі і завастрэньне газэтнай кампаніі ў абедзьвюх дзяржавах. Як ведама, Італія хоча за ўсялякую цану зраўняць свае морскія сілы з французскімі. Але Францыя гэтага дапусьціць ніяк ня можа, бо гэта значыла-б — зрачыся адразу сваіх афрыканскіх калёніяў, на якія даўно пазірае прагавітым вокам Італія. Але—адначасна— гэтымі збраеньнямі абедзьвюх морскіх канкурэнтак страшэнна занепакоілася Англія. Англійскі ўрад зараз-жа выслаў у Парыж спэцыяльнага дэлегата, каб намовіць Францыю — „не ламаць“ вашынгтонскай і лёнданскай умоваў аб морскіх збраеньнях, дый увайсьці ў паразуменьне з Італіяй. Але з „намовы“ англійскага дэлегата нічога ня выйшла.

## Нявольніцкая праца ў ССРР.

Акцыя пратэсту проці нявольніцкай працы ў „сацыялістычных“ рэспубліках Радаў, даволі плятонічная дагэтуль, пачала ўжо даваць і зусім рэальныя вынікі. Усьлед за Амэрыканскімі Штатамі, забараніўшымі ўвоз цэлага раду радавых тавараў, ня гледзячы на іх страшэнную таньнасьць, пайшла Канада, спыніўшая ўвоз радавага лесу. Меры забароны прымае Францыя. Добра гандлююць з Радамі пакуль што—Англія, Нямеччына і Італія, ня кажучы аб Японіі.

Асабліва цяжкой для Радаў зьяўляецца адмова Амэрыкі. Таму радавая прэса цяпер страшэнна лае амэрыканскі ўрад, пагражаючы, што— з свайго боку і радавы ўрад пазбавіць Амэрыку ўсіх радавых заказаў.

# З жыцьця Цэнтрасаюзу.

З 15 лютага пачаліся выяздныя лекцыі на правінцыі, арганізаваныя праз Цэнтрасаюз, якія будуць адбывацца кожную нядзелю ў розных пунктах.

Першая з гэтых лекцыяў была прачытана гр. Ф. Акінчыцам у м. Новы Свержань, Стаўпецкага павету на тэму „Коопэрацыя і яе значэньне ў гаспадарчым жыцьці сялянства“.

22 лютага адбыліся 2 лекцыі — адна у Валожынскім павеце, другая ў Вялейскім, а 1 сакавіка будзе лекцыя ў Смаргонях.

---

21 лютага г. г. на паседжаньні Прэзыдыюму Цэнтрасаюзу была разгледжана шкодная для Цэнтрасаюзу праца прадстаўніка Бел. Гасп. Зьвязу Янкі Станкевіча, за якую пастаноўлена выключыць яго з ліку сяброў Цэнтрасаюзу.

## „Уклон у бок вялікарускага шовінізму“.

„Праўда“ „адкрыла“ ў бальшавіцкай партыі новы „ўклон“ („адхіл“) і выступіла проці — „кулацка-капіталістычных ідэяў вялікарускага шовінізму“, які пранікае ў рады пралетарыяту і атручвае нават паасобных чаловых прадстаўнікоў партыі“... Газэта піша, што гэты „ўклон“ ёсьць хіба найбольш небясьпечнае зьявішча ўнутры партыі, пагражаючае падарваць у практычнай працы прынцып нацыянальнага роўнапраўя“. Гэты „адхіл“ у бок вялікарускага нацыяналізму „Праўда“ лічыць нават большай небясьпекай, як „уклон“ адваротны: як праявы нацыяналізму малых народаў, які „аслабляе адзінства Радавага Саюзу дый ліе ваду на млыны інтэрвэнцыі з боку суседзяў“.

Агледзілася ў пару „бесстаронна“-генэральная газэта. Калі вялікарускі шовінізм — у бязьмежна распаленым самаўладзтве — зьнішчыў амаль не цалком усю самастойнасьць культурна-нацыянальнага жыцьця „малых народаў“, у тым ліку 40 мільённага ўкраінскага і 12-мільённага беларускага, набіў вастрогі і падвалы „Чэкі“ найбольш заслужанымі і шчырымі працаўнікамі і кіраўнікамі ўкраінскага і беларускага адраджэньня, давёў да самагубства цьвет беларускай навукі — праф. Ігнатоўскага, і замаху на ўласнае жыцьцё самога сонца беларускай паэзіі, Янку Купалу, тады „агледзілася“ сталінская газэта дый пачынае нешта „жаваць“ крывадушна аб „уклонах“...

# Кароткія навіны.

— Вялікае ўражэньне выклікала назначэньне новага галавы французскай арміі — ген. Вэйганда, заместа ген. Пэтэна. Гэн Вэйганд—баявы кандыдат французскіх імпэрыялістаў, ген. Пэтэн наадварот лічыцца прыхільнікам мірнага паразуменьня з Нямеччынай. Таму новае назначэньне разглядаецца, як адказ Францыі на ўзрост ваеннай актыўнасьці ў Нямеччыне. Левыя газэты ў Францыі называюць ген. Вэйганда „генаралам дзяржаўнага перавароту“ і лічуць яго назначэньне „правакацыяй“ у бок Нямеччыны. Нямецш варожа аднясьлася да назначэньня і нямецкая прэса.

Наадварот — у Польшчы назначэньне ген. Вэйганда выклікае вялікае здаволеньне. Бо-ж гэта — той самы генарал, які ў 1920 г. адратаваў Польшчу ў часе наезду бальшавікоў, рэарганізаваўшы шпарка адступаўшую польскую армію.

---

Тое, што адбылося ў 1917 г. — ужо прайшло і шкадаваць аб ім ня прыходзіцца, хоць-бы толькі з тае прычыны, што ня было ў той час такой сілы, якая-б магла ўстрымаць гэтую дзікую парцэляцыю.

Пытаньне цяпер зводзіцца да таго, якімі шляхамі правясьці рэканструкцыю сельскае гаспадаркі на такіх падставах, якія далі-б пэўныя гаспадарчыя плюсы для ўсяго краю і здзейснілі-б сацыялістычны строй на вёсцы.

Над імі павінны ламаць сабе галовы савецкіх камуністы і, калі яны іх ня вырашаць, то пацерпяць поўны крах, чаго яны і самі ня ўкрываюць.

Пасьля выданьня дэкрэту аб зямлі — кампартыя досыць доўга не зварочывала ўвагі на будаваньне сацыялістычных формаў гаспадаркі на вёсцы, а была занята там, пры помачы сваіх спажыўчых ворганаў — іншымі справамі.

Упэрыяд г.зв. вайсковага камунізму, з 1917 г. па 1921 г., савецкая сялянская гаспадарка стала аб'ектам нячуванай эксплёатацыі з боку ўлады. Яна проста разбурвалася, дзякуючы выпампоўваньню спажывецкіх запасаў пры дапамозе разьвёрсткі. Лепш пастаўленыя і больш прадукцыйныя селянскія гаспадаркі, т. з. „кулацкага“ тыпу, па просту рабаваліся. Забіралася ня толькі збожжа, скаціна, а нават пераносіліся гаспадарскія забудаваньні і перадаваліся „беднаце“, якой, трэба зазначыць, ня было чаго ў іх і хаваць. Падобныя гвалты можна было назіраць у масавых разьмерах на Украіне.

Арганізаваная ў асобныя камітэты, бедната бескантрольна арудавала над лёсах рэшты селянства і лічыла асноўнай мэтай свайго істнаваньня бязупынны падзел селянскага дабра.

Найбольш несьвядомая і больш здэмаралізалася ў духу камунізму--падзелу, гэтага антысацыяльнага і рэакцыйнага па сваёй сутнасьці зьявішча.

Зусім зразумела, што бедната ад гэтага не багацела, вытворчасьць працы гэтай упрывіліяванай часткі селянства не павялічвалася, а з другога боку больш працавітая, заможная частка селянства бяднела, скарочывала лік абраблянае зямлі, баючыся новага перадзелу. Ясна, што „камунізм — падзелу“ гэтай эпохі ніўякім выпадку, сацыялістычным будаўніцтвам назваць немагчыма.

Працяг такой палітыкі прывёў-бы да нямінучае эканамічнае катастрофы. Першыя-ж гады вайсковага камунізму прывялі да такога аграмаднага зьмяншэньня пасяўное плошчы, што гарадзкое насельніцтва аказалася ў стане бязупыннага голаду, падчас якога спажыўчыя картачкі больш важылі, чым той хлеб, які па іх выдаваўся з дзяржаўных крамаў. Стан сельскае гаспадаркі прыняў грозны для ўсяю краю характар, дзякуючы пануючай у ей анархіі. Па дадзеным, якія мы знаходзім у савецкага эканаміста Дэна (Курс эканамічнай геаграфіі, выд. 1928 г., старонка 184), пасеўная плошча зьменшылася ў 1920 г. да 70% пры параўнаньні з даваеннымі часамі. Дзякуючы хатняй вайне, неўраджаю, а галоўным чынам неспыняючайся анархіі ў сельскай гаспадарцы, зьменшаньне пасеўнай плошчы расло—і ў 1921 г. гэта плошча складала ўжо 61,6%, а ў 1922 г. — 56,5% плошчы 1913 г. Вось як сялянства рэагавала на савецкія экспэрымэнты ў першы перыяд камуністычнай практыкі на вёсцы.

Само жыцьцё даказывала нават самым упартым людзям, што будаваньне сацыялізму на вёсцы, справа ня лёгкая і што яна куды цяжэйшая, чым гэта здавалася многім. Першым зразумеў гэта Ленін — і наступіла ў Саветах эпоха новай эканамічнай палітыкі (НЭП), якую мы маглі назіраць

У сутнасьці ніякай „новай“ эканамічнай палітыкі не праводзілася Уся навіна яе заключалася ў адносінах да сельскае гаспадаркі ў тым, што быў дапушчаны ўмоўна свабодны гандаль і зьменшыліся тыя гвалты, якія ішлі разам з камунізмам — падзелу. Камітэты бедната ў Маскоўшчыне былі распушчаны, бо сама цэнтральная ўлада пераканалася ў тым, наколькі далёка ад „сацыялізацыі вёскі была праца гэтых установаў. Кулацкім элемэнтам была дадзена „перадышка“ і нават былі моманты, калі з імі заігрывалі ў надзеі на павялічэньне вытворчасьці іх гаспадарак.

Замест хаотычнай спажыўнай разьвёрсткі — быў уведзены спажыўны падатак, аднак і пры гэтай рэформе бедняцкія гаспадаркі былі пастаўлены ў выключныя ўмовы і карысталіся рознымі падатковымі і іншымі ільготамі.

Між тым, за час існаваньня камунізму-падзелу частка беднякоў значна паправіла свае справы на рахунку сярэдніх і заможных гаспадарак. Гэта папраўка аднак насіла ў большай частцы часовы характар толькі дзеля таго, што ў большасьці выпадкаў тое, што рабавалася, хутка пражывалася і амаль нішто ня йшло на ўзмацненьне асноўнага капіталу ў бядняцкай гаспадарцы. Нарэшце наступілі і такія часы, калі ня было чаго дзяліць, і таму бедняцкія гаспадаркі, змарнаваўшы тое, што ўдалося захапіць, засталіся ў такім палажэньні, у якім знаходзіліся і да рэвалюцыі.

Да гэтага часу бедната, якая мела шмат магчымасьцяў пры савецкім ладзе калі не разбагацець, то хаця паставіць як мае быць свае гаспадаркі—як і раней кладзецца цяжарам на дзяржаўныя рэсурсы, выцягваючы розныя запамогі, льготы і т. п.

(Далей будзе).

